Жытко, А. П. Мадэрнізацыя памешчыцкай гаспадаркі Беларусі (другая палова XIX — пачатак XX ст.). / А. П. Жытко // Працы гістарычнага факультэта БДУ: Навук. зб. Вып. 4 / Рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.] — Мн: БГУ, 2009. — С. 3–12.

***А. П. ЖЫТКО***

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ ПАМЕШЧЫЦКАЙ ГАСПАДАРКІ БЕЛАРУСІ (другая палова XIX — пачатак XX ст.)

Развіццё памешчыцкай гаспадаркі ў парэформенны час працякала ў складаных, супярэчлівых сацыяльна-эканамічных і палітычных умовах. У выніку скасавання прыгону захаваліся рэшткі перажыткаў феадальнай эпохі (цераспалосіца, сервітуты, неразмежаванасць памешчыцкіх і сялянскіх зямель і г. д.), што адмоўна ўплывала на развіццё капіталізму ў аграрным сектары эканомікі. Акрамя гэтага, пераход да капіталістычнай сістэмы вядзення гаспадаркі патрабаваў наяўнасці фінансавых сродкаў, арміі наёмных рабочых, памешчыцкіх прылад працы, цяглавай рабочай сілы, агратэхнічных ведаў і здольнасцей весці гаспадарку як прадпрымальніцкую справу. Зразумела, што ў першыя дзесяцігоддзі пасля скасавання прыгону такіх магчымасцей у памешчыкаў не існавала. Таму пераходнай сістэмай стала адработачная і здача зямлі ў арэнду.

Разам з тым у гэты час памешчыкі звярталіся і да найму рабочай сілы. Пасля скасавання прыгону наёмныя сяляне звычайна апрацоўвалі памешчыцкія землі на сваіх конях і сваім інвентаром. У працэсе пралетарызацыі сяляне ўсё больш страчвалі цяглавую рабочую сілу і прылады працы. Так, у 1912 г. было зарэгістравана 19,8 % бясконных і 50,1 % аднаконных сялянскіх двароў [1, с. 131]. У 1907 г. у Віцебскай губерні амаль палова беспасяўных і малапасяўных сялянскіх гаспадарак зусім не мела інвентару. «Рассяляньванне» ў вёсцы прыводзіла да павелічэння колькасці асоб, якія маглі прапанаваць сябе ў якасці наёмнай рабочай сілы, з аднаго боку, а з другога — вымушала памешчыкаў павялічваць закупку сельскагаспадарчых машын.



Капіталістычны прагрэс памешчыцкай гаспадаркі асабліва наглядна праявіўся ў растучым прымяненні машын і палепшаных прылад працы. Ужо ў 1879 г. у Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віленскай і Ковенскай губернях дзейнічала 21 прадпрыемства па выпуску сельскагаспадарчых машын. Агульная вытворчасць выпуску гэтай прадукцыі за чатыры гады (1876—1879) павялічылася ў 1,6 раза (з 107 068 да 170 738 руб.) [2, с. 114]. Але, нягледзячы на гэта, у 60—70-х гг. асноўнымі прыладамі для апрацоўкі глебы заставаліся сохі і драўляныя бароны. Менавіта імі ў 1878 г. у Мінскай губерні карысталіся звыш 80 % маёнткаў [3, с. 52].

Пералом у распаўсюджанні машын адбыўся пад уплывам аграрнага крызісу, а таксама далейшай пралетарызацыі сялянства. Усярэдзіне 90-х гг., па даных Міністэрства земляробства, Беларусь па распаўсюджанні палепшаных прылад працы знаходзілася на 2-м месцы пасля Новарасіі. У памешчыкаў яны складалі 54—86 % [8, с. 74]. У 1910 г. у Беларусі на кожны маёнтак прыпадала ў сярэднім 5 жалезных плугоў і 5,5 іншых палепшаных прылад працы і машын.

Механізацыя сельскай гаспадаркі спрыяла пад’ёму прадукцыйнасці працы, пашырэнню вытворчасці. Машына аказвалася рэнтабельнай толькі пры вялікай колькасці зямлі. Таму машыны выкарыстоўваліся ў асноўным у буйназямельных памешчыкаў. Прымяненне машын садзейнічала пашырэнню ўнутранага капіталістычнага рынку, стымулявала развіццё прамысловасці, павялічвала патрэбы на кваліфікаваных сельскагаспадарчых рабочых. Машынная праца выцясняла адработкі, якія з’яўляліся тормазам на шляху капіталістычнага прагрэсу.

Прымяненне палепшаных прылад працы і машын было цесна звязана і з укараненнем шматпольных севазваротаў. У першыя парэформенныя дзесяцігоддзі панавала трохполле. В. П. Панюціч указваў, што з 295 валасцей сучаснай тэрыторыі Беларусі памешчыкі культывіравалі шматполле толькі ў 49 валасцях, ці 14,7 % [4, с. 246]. У далейшым развіццё капіталізму вымушала памешчыкаў пераходзіць да шматпольнай сістэмы. Аграрны крызіс паскорыў гэты працэс. Важнае значэнне ў гэтых адносінах мела пашырэнне пасеваў бульбы і кармавых траў. Так, у 90-х гг. у памешчыкаў Мінскай губерні практыкаваліся 4- і 8-польныя севазвароты. Гэта тычылася ў асноўным буйных землеўладальнікаў [5, с. 277]. Распаўсюджанне шматпольнай сістэмы, асабліва павелічэнне бульбянога палетка, патрабавала прымянення штучных угнаенняў. Амаль да канца XIX ст. у крыніцах сустракаліся спарадычныя звесткі аб унясенні памешчыкамі штучных угнаенняў. Сітуацыя пачала мяняцца

ў пачатку XX ст. Так, за 1913 г. у параўнанні з 1912 г. у Віцебскай губерні продаж штучных угнаенняў павялічыўся звыш чым на 80 % (з 90,8 тыс. пуд. да 166,7 тыс. пуд.) [6]. З 1905 да 1913 г. толькі Мінскі земляробчы сіндыкат павялічыў продаж угнаенняў у 8 разоў (з 24 020 да 190 614 руб.). Галоўнымі пакупнікамі з'яўляліся буйныя землеўласнікі [7, с. 13]. Прымяненне штучных, разам з натуральнымі, угнаенняў спрыяла павышэнню ўраджайнасці і таварнасці памешчыцкіх маёнткаў.

Развіццё капіталізму ў земляробстве суправаджалася пашырэннем пасяўной плошчы, павелічэннем сельскагаспадарчай вытворчасці. Збожжавыя культуры паступова выцясняліся іншымі культурамі. Важнае месца адводзілася вырошчванню бульбы для харчовага, тэхнічнага і кармавога выкарыстання. Прычым наглядаўся працэс спецыялізацыі розных галін гандлёвага земляробства. Гэта паслужыла перадумовай для ўтварэння буйных спецыялізаваных гандлёва-капіталістычных памешчыцкіх гаспадарак, якія спецыялізаваліся, у прыватнасці, на вырошчванні бульбы.

Нягледзячы на значнае скарачэнне дваранска-памешчыцкага землеўладання, у пачатку XX ст. агульныя плошчы пад пасеў бульбы павялічваліся. Бульбяны клін у 1900 г. у 5 заходніх губернях складаў 133,8 тыс. дзесяцін зямлі, а ў 1913 г. — ужо 204,9 тыс. дзесяцін. Удзельная ж вага бульбы ў агульным пасеве склала ў 1900 г. 9,8, а ў 1913 — 15,4 % [1, с. 138—139]. Гэта сведчыць аб тым, што прыватныя ўласнікі, галоўным чынам памешчыкі, нягледзячы на пераход значнай часткі зямлі ў рукі сялян, імкнуліся ўтрымаць ворныя землі, пераходзілі да шматпольнай сістэмы за кошт скарачэння папару і некаторых традыцыйных збожжавых культур, якія давалі меншы прыбытак.

Пераход да бульбаводства спрыяў адказу памешчыкаў ад трохпольнай сістэмы і пераходу да шматпольнай, што само па сабе забяспечвала павелічэнне ўраджайнасці ўсіх культур. Саха і драўляная барана сталі непрыдатнымі для падрыхтоўкі і апрацоўкі глебы. Таму спатрэбіліся плугі, жалезныя бароны, культыватары, акучнікі, глебапаглыбнікі, бульбакапалкі і іншыя прылады працы.

Пашыранае вырошчванне бульбы вымагала і больш ашчадных адносін да зямлі. Памешчыкі вымушаны былі павялічваць статкі жывёлы для атрымання арганічнага ўгнаення, з аднаго боку, а з другога — усё гэта садзейнічала далейшаму развіццю жывёлагадоўлі ў краі.

Важнае значэнне для развіцця памешчыцкай гаспадаркі мела травасеянне, якое станавілася неабходнай састаўной часткай гандлёвай жывёлагадоўлі. За другую палову XIX ст. ёсць толькі разрозненыя звесткі



аб травасеянні. Яны тычацца ў асноўным найбольш буйных, паказальных памешчыцкіх гаспадарак. Значнае паскарэнне травасеяння наглядалася ў пачатку XX ст. У 5 заходніх губернях пасяўная плошча пад травамі з 1901 да 1912 г. павялічылася ў 2 разы, у 50 губернях Еўрапейскай Расіі — толькі ў 1,76 раза [9, с. 168].

Развіццё жывёлагадоўлі ў памешчыцкай гаспадарцы ў парэформенны перыяд з'яўлялася непасрэдным вынікам прыстасавання яе да патрабаванняў рыначнай эканомікі. У Беларусі жывёлагадоўля з'яўлялася важнай галіной сельскай гаспадаркі. Яна была цесна звязана з земляробствам. Жывёлагадоўля забяспечвала палі ўласнікаў арганічным угнаеннем, цяглавай рабочай сілай (коні і валы), прадуктамі харчавання (мяса, малако, тлушч), сыравінай для прамысловасці. Значная частка жывёлы і прадуктаў жывёлагадоўлі паступала на рынак.

Акрамя дваран-памешчыкаў і сялян, коні знаходзіліся ва ўласнасці і іншых саслоўяў. У цэлым жа ў парэформенны перыяд наглядаўся значны прырост коней у беларускіх губернях. Іх колькасць з 1864 да 1900 г. павялічылася на 707,1 тыс. галоў, альбо ў 1,8 раза. Праўда, з 1900 да 1912 г. наглядалася нязначнае скарачэнне пагалоўя коней — на 43,1 тыс. [10, с. 56]. Такі ж працэс наглядаўся і ў дваранскай конегадоўлі. З 1888 да 1900 г. колькасць коней у дваран, якія пражывалі ў сельскай мясцовасці, павялічылася на 15 430, альбо на 15,2 %. З 1900 да 1906 г. адбываецца рэзкае памяншэнне — на 12 021 галоў (10,3 %), а да 1912 г. колькасць дваранскіх коней павялічылася на 4579 галоў (4,4 %). Не паддавалася ніякім хібам дваранскае конеўладанне толькі ў Мінскай і Гродзенскай губернях. Тут адбываўся яго ўстойлівы рост [10, с. 57].

Коні, як рабочая жывёла, у сельскай гаспадарцы з'яўляліся адным з асноўных сродкаў вытворчасці. Памешчыкі імкнуліся набыць найбольшую колькасць коней для сельскагаспадарчых работ. У прыватным сектары ім належала прыкладна адна трэць усіх коней, хаця доля іх з 1888 да 1912 г. некалькі паменшылася (на 2,0 %). Пры гэтым неабходна мець на ўвазе, што памесныя дваране з 1877 да 1905 г. страцілі 906,5 тыс. дзесяцін зямлі, у той час як асабістая прыватная зямельная ўласнасць іншых саслоўяў за гэтыя гады павялічылася на 1028,8 тыс. дзесяцін, альбо ў 2,3 раза [10, с. 58]. Такім чынам, колькасць коней у дваран у разліку на зямельную плошчу павялічвалася хутчэй, чым у прадстаўнікоў іншых саслоўяў. Гэта сведчанне таго, што ў памешчыцка-дваранскай гаспадарцы паступова ўкаранялася капіталістычная сістэма, якая выцясняла адработачную. Калі ў дарэформенныя гады памешчыкі стваралі конныя заводы для вырошчвання звычайна коней бегавых альбо іншых парод



(як хобі), то ў канцы XIX — пачатку XX ст. гэта выклікалася вытворчай неабходнасцю.

Такім чынам, пераход у сельскай гаспадарцы ад ручной працы (асабліва пры сяўбе і ўборцы ўраджая і яго апрацоўцы) да машыннай на коннай цязе не мог не паўплываць станоўча на паляпшэнне дваранска-памешчыцкай конегадоўлі, і наадварот — усё гэта спрыяла павышэнню прадукцыйнасці працы.

Важную ролю ў памешчыцкай гаспадарцы іграла развядзенне буйной рагатай жывёлы. У 60—70-х гг. частка яе (валы) выкарыстоўвалася ў якасці цяглавай рабочай сілы і ў гандлі мясам. У далейшым коні выціснулі валоў і іх удзельная вага ў памешчыцкай гаспадарцы да канца XIX ст. складала нязначную частку. Асаблівую каштоўнасць мелі каровы. Буйная рагатая жывёла выкарыстоўвалася для атрымання арганічнага ўгнаення, мяса і малочных прадуктаў, якія паступалі на продаж.

З 1856 да 1911 г. статак буйной рагатай жывёлы ў 5 заходніх губернях павялічыўся з 1567,7 тыс. да 3217,8 тыс. галоў, ці больш як у 2 разы. Асабліва гэта тэндэнцыя адлюстравалася на колькасці і якасці кароў. Так, з 1856 да 1911 г. статак дойных кароў у краі павялічыўся на 1080,2 тыс. галоў, альбо ў 3,0 раза. Найбольшы прырост наглядаўся ў Мінскай — на 255,9 % і Віленскай губерні — на 228,2 %, а найменшы — у Магілёўскай — 142,8 %. Акрамя гэтага, калі ў 1856 г. у Еўрапейскай Расіі на 100 жыхароў прыходзілася 12,6 дойных кароў, а ў 5 заходніх губернях — 12,3, то ўжо ў 1911 г. гэтыя суадносіны раўняліся 9,6 і 14,5 адпаведна [10, с. 65, 66].

Адным з накірункаў развіцця жывёлагадоўлі з'яўлялася малочнатаварная вытворчасць. Але ў першыя дзесяцігоддзі пасля скасавання прыгону яна, як і іншыя галіны памешчыцкай гаспадаркі, прыйшла ў заняпад. Статкі пародзістых кароў паменшыліся, таму што цяпер для іх дагляду патрабаваліся значныя сродкі (павышэнне кошту рабочай сілы, нядзольнасць большасці памешчыкаў арганізаваць гаспадарку ў новых умовах, памяншэнне абаротнага капіталу, кантрыбуцыі і г. д.). У архіўных крыніцах, справаздачах губернатараў, навуковых даследаваннях таго часу мы знаходзім толькі фрагментарныя звесткі аб тым, што ў таго ці іншага памешчыка арганізавана дасканалая сістэма малочнатаварнай вытворчасці. Па сутнасці ў гэтыя гады былі толькі асобныя аазісы, дзе ў гаспадарках утрымліваліся высокапародзістыя малочныя каровы ці арганізавана праводзіліся селекцыйныя мерапрыемствы па ўдасканаленні мясцовай пароды буйной рагатай жывёлы. У цэлым жа ў 60—70-х гг. жывёлагадоўля ў памешчыцкіх гаспадарках Беларусі, а тым больш у ся-



лянскіх, насіла «гнаявы» характар, для якой непатрэбны былі пародзістыя каровы, выдаткі на ўтрыманне якіх былі значна большымі. Толькі з пачаткам аграрнага крызісу, ростам гарадскога насельніцтва, пабудовай новых чыгунак, шашэйных дарог, прамысловым уздымам 90-х гг. у памешчыцкай гаспадарцы наглядаўся паступовы пераход да малочнатаварнай вытворчасці як адной з галоўных галін.

Для паляпшэння статка дойных кароў у 80—90-я гг. у буйных памешчыцкіх маёнтках усё часцей засноўваліся «заводы» па развядзенні замежных парод. Абзавядзенне памешчыкамі замежнай буйной рагатай жывёлай спрыяла не толькі распаўсюджанню яе ў іншых гаспадарках, але і правядзенню селекцыйнай работы шляхам скрыжавання з мясцовай беларуска-літоўскай пародай. Адным з вядомых селекцыянераў і папулярызатараў беларуска-літоўскай пароды ў Беларусі з'яўляўся ўладальнік маёнтка Ігнацічы дваранін В. Ельскі. У 1914 г. на Усерасійскай выстаўцы ў Маскве ўпершыню была прадстаўлена беларуска-літоўская парода кароў.

У пачатку XX ст. памешчыкі пачалі арганізоўваць кантрольныя саюзы з мэтай селекцыі кароў. У 1912 г. быў створаны Гродзенскі саюз жывёлаводаў і жывёлазаводчыкаў, да якога ў 1913 г. далучыліся памешчыкі Сувалкаўскай губерні і часткі Віленскай губерні. Пад кантролем саюза знаходзілася 4 тыс. галоў рагатай жывёлы. Савет саюза вырашыў правесці масавае абследаванне парод буйной рагатай жывёлы Гродзенскай губерні і адкрыць курсы даглядчыкаў жывёлы ў маёнтку Астравок каля Гродна [11, с. 103, 104]. Да 1914 г. у Мінскай губерні былі заснаваны 3 памешчыцкія і 1 сялянскі кантрольныя саюзы ўладальнікаў толькі беларуска-літоўскай пароды жывёлы [12, с. 32]. У маі 1914 г. быў створаны Магілёўскі губернскі кантрольны саюз [13, с. 40].

Паляпшэнне статка дойных кароў не магло не сказацца на павышэнні ўдояў. Калі ў 60—70-х гг. памешчыцкія каровы ў сярэднім у год давалі 20—60 вёдзер малака, у 90-х — да 70, то ў 1910—1914 гг. толькі ад адной беларуска-літоўскай каровы надойвалі 130 вёдзер пры тлустасці 4,23 % [14, с. 12]. У першае дваццаціголдзе пасля скасавання прыгону ў тых нязначных па колькасці маёнтках, дзе ўтрымліваліся дойныя каровы, малако перапрацоўвалася ў асноўным на масла і сыры. З канца XIX ст. з'явілася магчымасць пастаўляць ужо малако, смятану, вяршкі на вялікую адлегласць ад раёнаў іх вытворчасці. Справа ў тым, што на чыгунках Беларусі паявіліся спецыяльна абсталяваныя вагоны-лядоўнікі.

Аб шпаркім развіцці малочнатаварнай гаспадаркі на пачатку XX ст. сведчыць і той факт, што сельскагаспадарчыя таварыствы, а пазней і



земствы пачалі ствараць школы, праводзіць курсы па падрыхтоўцы спецыялістаў малочнай вытворчасці. Аб інтэнсіфікацыі развіцця малочнай гаспадаркі сведчаць і тыя факты, што памешчыкі на пачатку XX ст. імкнуліся адкрыць лаўкі, саюзы па збыту і склады малочнай прадукцыі. Так, Мінскім таварыствам сельскай

гаспадаркі быў створаны склад малочных прадуктаў у Варшаве, а Магілёўскім — у Кіеве. Пры гэтым, калі да 1902 г. збыт прадуктаў ішоў у асноўным за мяжу, то цяпер прадукты малочнай жывёлагадоўлі пераважна збываліся ў імперыі, дзе даходы перавышалі амаль у 1,5 раза ад замежнага продажу. У 1902 г. у Мінску арганізавалася таварыства па збыту малочнай прадукцыі [15, с. 807].

Перапрацоўка малочнай прадукцыі патрабавала ўдасканалення абсталявання і заснавання масларобчых і сыраварных заводаў. Да 80-х гг. у крыніцах утрымліваюцца адрывачныя звесткі аб іх існаванні. Звычайна масла і сыры выраблялі самым прымітыўным спосабам. Першыя заводы з сепаратарамі і іншымі прыстасаваннямі пападаюць у афіцыйную статыстыку з пачатку 80-х гг. Так, у 1883 г. зафіксаваны адзін такі завод з двума рабочымі, які даваў прадукцыі на 3 тыс. руб. у год. У Гродзенскай губерні іх налічвалася 7 з колькасцю рабочых 50 чалавек, але сума вытворчасці складала толькі 5650 руб. [16, с. 61]. Відаць, большасць такіх невялікіх заводаў на пачатку XX ст. была сканцэнтравана ў Гродзенскай губерні. Так, у 1912 г. тут дзейнічала 27 заводаў па вытворчасці масла і сыру, якія вырабілі прадукцыі на 44,1 тыс. руб. У гэтым жа годзе ў Магілёўскай губерні 7 заводаў з 22 рабочымі далі прадукцыі на суму 15,5 тыс. руб. Гэта былі найбольш вядомыя заводы з паравымі катламі. Тыя ж маёнткі, дзе выраблялі масла і сыры з дапамогай механічных сепаратараў, прэсаў і г. д., не ўключаліся ў афіцыйную статыстыку. Так, па даных Віленскага статкамітэта, у губерні ў 1909 г. дзейнічала ўсяго два заводы, якія вырабілі прадукцыі толькі на 2600 руб. У той жа час у беларускіх паветах гэтай губерні ў 1909 г. было выраблена масла на суму 78 736 руб., а сыру — на 43 702 руб., што разам склала 122 438 руб. Такім чынам, статыстыка масларобчых і сыраварaных заводаў не адлюстроўвае ўзроўню развіцця малочнай гаспадаркі. Разам з тым яна з'яўляецца сведчаннем тэхнічнага прагрэсу, які адбываўся ў гэтай сферы [10, с. 74].

Арыентацыя памешчыцкай гаспадаркі на малочную вытворчасць мела вынікам не толькі павышэнне таварнасці гаспадарак, далейшае развіццё ўнутранага і знешняга гандлю, але і спрыяла інтэнсіфікацыі ўсёй сельскагаспадарчай вытворчасці.

Важнай галіной развіцця памешчыцкай жывёлагадоўлі з'яўлялася свінаводства. Неабходна адзначыць, што ў першыя дзесяцігоддзі пасля



скасавання прыгону памешчыцкае гандлёвае свінаводства, відаць, не атрымала значнага развіцця. Свінні звычайна разводзіліся для задавальнення асабістых патрэб уласнікаў маёнткаў, а прырост у свінаводстве ішоў галоўным чынам за кошт сялянскіх гаспадарак. У цэлым жа ў парэформенныя гады тэмпы развіцця свінагадоўлі былі высокімі. Колькасць свіней у 5 заходніх губернях з 1856 да 1911 г. павялічылася з 949,3 тыс. да 2108,4 тыс. галоў, альбо ў 2,2 раза. Найбольшы прырост прыпадаў на Мінскую і Гродзенскую губерні (у 2,7 і 2,5 раза адпаведна). У Мінскай губерні быў зафіксаваны і найбольшы абсалютны лік свіней (643,8 тыс. галоў, ці 30,5 % ад агульнай колькасці), а найменшы — у Віцебскай губерні (309,4 тыс. галоў, ці 14,7 %) [10, с. 75].

У 1911 г. у Еўрапейскай Расіі і Польшчы па колькасці свіней у разліку на 100 жыхароў першае месца займала Курляндская губерня (22,9), другое — Гродзенская (22,5), трэцяе — Мінская (22,4). На 10-м месцы знаходзілася Магілёўская губерня (17,7), на 11-м — Віцебская (16,7) і на 14-м — Віленская губерня (15,9). Па 50 губернях Еўрапейскай Расіі прыходзілася 10, а з Царствам Польскім — толькі 9,6 свіней на 100 жыхароў [10, с. 75]. Такім чынам, Беларусь на пачатку XX ст. пераўтварылася ў рэгіён высокаразвітай свінагадоўлі.

Зразумела, што памешчыкі займаліся не спажывецкай, а гандлёва-прадпрымальніцкай свінагадоўляй. Гэтаму садзейнічала і кан'юнктура цэн на рынках як на свіное сала, так і на мяса. У прыватнасці, з канца XIX ст. да 1911 г. цэны на свіное мяса ў 5 заходніх губернях выраслі ў сярэднім у 1,5 раза. Найбольш высокія цэны за 1 пуд мяса былі ў Гродзенскай (615 кап.) і Мінскай (540 кап.) губернях. У цэлым жа кошт беларускага мяса ў 1911 г. складаў 542 кап. за пуд, а ў Еўрапейскай Расіі ў цэлым — толькі 474 кап. [10, с. 77].

Прагрэс у развіцці памешчыцкай свінагадоўлі не мог быць магчымым без пашырэння і ўдасканалення кармавой базы. Гэта было звязана з павышэннем ураджаяў традыцыйных збожжавых культур і асабліва бульбы. На пачатку XX ст. на рост пагалоўя памешчыцкіх свіней станоўча паўплывала і развіццё малочнай гаспадаркі. Адходы ад перапрацоўкі малака таксама ішлі на корм свіней. Такім чынам, прагрэсіўныя працэсы ў земляробстве, агракультуры і таварнай жывёлагадоўлі знаходзіліся ва ўзаемасувязі і станоўча ўплывалі на развіццё сельскай гаспадаркі ў цэлым.

Акрамя сельскай гаспадаркі, значную ўвагу памешчыкі надавалі прамысловай вытворчасці. У сувязі з рэформай 1861 г. усе прадпрыемствы, заснаваныя на прымусовай працы, закрыліся альбо былі пераведзены



на вольнанаёмную працу. Прамысловасць атрымала неабмежаваныя рэзервы вольнай рабочай сілы з ліку абеззямеленых і пралетарызаваных сялян, а таксама рынак для збыту прадукцыі, які пастаянна пашыраўся і паглыбляўся ў ходзе разбурэння натуральнай і паўнатуральнай памешчыцкай і сялянскай гаспадарак. Развіццю памешчыцкай прамысловасці садзейнічала і шпаркае будаўніцтва чыгунак, шашэйных дарог,

павелічэнне попыту на лесаматэрыялы, прадукты хімічнай прамысловасці, якая працавала на мясцовай сыравіне, на спірт і інш. Па няпоўных і супярэчлівых даных колькасць дваранска-памешчыцкіх цэнзавых прадпрыемстваў пастаянна павялічвалася. Так, у 60-х гг. XIX ст. у 35 беларускіх паветах 5 заходніх губерняў дзейнічалі 94 дваранскія мануфактуры і фабрыкі, 83 % ад іх агульнай колькасці. У 1901 г., па нашых падліках, толькі фабрык і заводаў у руках дваран было 454, што складала прыкладна 53 % ад іх агульнай колькасці, а ў 1913 г. — 615, альбо 48,0 % [10, с. 172].

Адной з галін прамысловай вытворчасці ў памешчыцкіх гаспадарках было вінакурства. Яно было цесна звязана з жывёлагадоўляй і земляробствам. Вінакурства давала спірт, які меў вялікі збыт, і барду на адкорм жывёлы. Бровары ў Беларусі адносіліся да трэцяй і другой катэгорыі, гэта значыць, былі дробнымі (85,7 %) і сярэднімі (14,3 %), на апошніх вытворчасць бязводнага спірту не дасягала 40 000 вёдзер у год. Звычайна на вінакурных заводах былі задзейнічаны 1 магістар і 5—7 (за рэдкім выключэннем — 12—18) рабочых. У адпаведнасці з данымі за 1890 г. на 376 дзейнічаўшых заводах у 5 заходніх губернях працавала 2900 рабочых, альбо ў сярэднім па 7—8 чалавек на кожным з іх [10, с. 179—180]. Па шэрагу прычын колькасць бровараў у першыя 40 гадоў пасля рэформы 1861 г. пастулова скарачалася. Толькі з пачатку XX ст. наглядаўся рост колькасці вінакурань. У 5 заходніх губернях яна павялічылася з 428 у 1899/1900 г. да 574 — у 1906/1907 г. і да 628 — у 1910/1911 г., альбо ў 1,47 раза ў параўнанні з 1899/1900 г., а вытворчасць спірту — у 1,74 раза. Гэта сведчанне далейшага ўзбуйнення як саміх заводаў, так і ўдасканалення тэхналагічных працэсаў. Так, у Гродзенскай губерні за 1900—1913 гг. былі заснаваны 33 новыя бровары, аснашчаныя новым абсталяваннем, што складала 33 % ад усіх дзейнічаўшых [10, с. 180—181].

Сыравінай для вінакурства з'яўляліся хлебныя прыпасы і бульба. Да 1881/1882 г. большасць спірту выкурвалася са збожжавых культур, але з адзначанага часу бульба пастулова пачала іх выцясняць. Было ўстаноўлена, што выхад спірту з адной дзесяціны бульбы быў значна большы ў



параўнанні з адной дзесяцінай збожжавых. Так, з адной дзесяціны жыта выхад бязводнага спірту складаў 26,3 вядра, а бульбы — 78,9 вядра, ці ў 3 разы больш [17, с. 105]. Пераход да бульбы, як галоўнага сыравіннага матэрыялу, азначаў не толькі далейшую камерцыялізацыю вінакурнай вытворчасці, але і капіталізацыю земляробства.

Падводзячы вынікі, неабходна адзначыць, што памешчыцкае прадпрымальніцтва Беларусі ў парэформенны перыяд у сацыяльна-эканамічным плане з'яўлялася адлюстраваннем агульнага працэсу пераўтварэння памешчыцкай гаспадаркі на рыначных пачатках. Пасля адмены прыгоннага права памешчыцкая гаспадарка працягвала называцца дваранскай толькі па яе саслоўнай прыналежнасці. Што тычыцца яе вытворча-эканамічнага характару, то яна амаль ва ўсім адпавядала рыначным патрабаванням. Гэта азначае, што ад феадальнага мінулага ў арганізацыі дваранска-памешчыцкай гаспадаркі ўвогуле нічога не засталося, а сама яна пераўтварылася ў капіталістычную. І гэта неабвержнае сведчанне таго, што дваранства ў парэформенны перыяд не з'яўлялася натуральным праціўнікам новага, буржуазнага ладу. Акрамя гэтага, буйныя памешчыцкія гаспадаркі ў сваёй большасці выступалі цэльным арганічным комплексам, які ўключаў у сабе не толькі сельскагаспадарчую вытворчасць як такавую, але і прамысловую разам з гандлем.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Экономика Белоруссии в эпоху империализма / под ред. Г. Т. Ковалевского. Минск: Изд-во АН БССР, 1963.
2. Историко-статистический обзор промышленности России. СПб., 1883. Т. 1. Отд. 1.
3. *Шабуня, К. И.* Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг. / К. И. Шабуня. Минск: Наука и техника, 1962.
4. *Панютич, В. П.* Соотношение систем земледелия в помещичьем хозяйстве Белоруссии в 60—70-е годы XIX в. / В. П. Панютич // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. Киев, 1979.
5. Сельскохозяйственные и статистические сведения по материалам, полученным от хозяев. СПб., 1906. Вып. XII.
6. Витебский вестник. 1914. 21 февр.
7. *Вельяминов-Зернов, А. В.* Деятельность сельскохозяйственных складов в Минской губернии за 1911—1913 гг. / А. В. Вельяминов-Зернов. Минск, 1914.
8. *Липинский, В. П.* Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (вторая половина XIX в.) / В. П. Липинский. Минск: Наука и техника, 1971.
9. *Липинский, В. П.* Столыпинская аграрная реформа в Белоруссии / В. П. Липинский. Минск: Изд-во Белорус. гос. ун-та, 1978.





10. *Жытко, А. П.* Дваранства Беларусі перыяду капіталізму. 1861—1914 гг. / А. П. Жытко. Мінск: БДПУ, 2003.
11. Обзор Гродненской губернии за 1913 г. Гродно: Губерн. тип., 1914.
12. Вестник Минского губернского земства. 1914. № 7.
13. Вестник Могилевского губернского земства. 1914. № 10.
14. Ветеринарная хроника Витебской губернии. 1913. № 3—4.
15. Молочное хозяйство. 1903. № 1.

16. Памятная книжка Гродненской губернии на 1885 год: в 2 ч. Гродно: Губерн. тип. 1884. Ч. 2.
17. Сборник сведений по истории и статистике внешней торговли / под ред. В. И. Покровского. СПб.: Деп. тамож. сборов, 1902.